# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№ 12 (175)
снежань 2016

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## У НУМАРЫ:

### "Сёння ідэі нацыянальнай культуры падхоплівае грамадства, бізнес, медыі. Гэта поспех!"

Гутарка з кіраўніцай ЗБС "Бацькаўшчына" Аленай Макоўскай пра досвед паспяховай рэалізацыі праектаў у галіне нацыянальнай культуры.

**Працяг на старонцы 3.**

### Чаму варта захаваць "Белсат"?

У сувязі з сітуацыяй, якая склалася вакол тэлеканала "Белсат", неабходна растлумачыць, чаму гэты канал важны для Беларусі, беларускай мовы і культуры.

**Працяг на старонцы 4.**

Шчыры дзякуй нашаму сябру з Латвіі Алесю Карповічу за дапамогу ў выданні бюлетэня!



## ВІНШВАННІ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў студзені:
Алега Дашкевіча (Беларусь),
Вольгу Іпатаву (Беларусь),
Міколу Купаву (Беларусь),
Алеся Лагвінца (Беларусь),
Ніну Шыдлоўскую (Беларусь),
Зінаіду Клыгу (Эстонія).

Жадаем шаноўным імяніннікам добрага здароўя, дабрабыту, творчага натхнення, доўгіх гадоў жыцця і спору ў працы.

**Управа МГА "ЗБС «Бацькаўшчына»"**

# ВІНШУЕМ З КАЛЯДАМІ І НОВЫМ ГОДАМ!

Дарагія сябры! Віншуем вас з Калядамі і Новым годам!

Мы разам ужо больш за чвэрць стагоддзя, і спадзяемся, што ў наступным годзе сувязь паміж намі яшчэ больш умацуецца!

Хай наступны год стане годам, у якім здзейсняцца ўсе вашыя планы, а добры настрой зробіцца неадлучным спадарожнікам у вандроўцы па ягоных святах ды штодзённасці!

Сабе мы пажадаем, каб ад вас прыходзілі толькі добрыя навіны!

Хай у надыходзячым годзе кожная ваша думка пра Беларусь будзе поўная натхнення, а энергія для кожнай дзеі на карысць Бацькаўшчыны – не згасала!

**Управа МГА "ЗБС «Бацькаўшчына»"**

навіны "Бацькаўшчыны"

# СЁМЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ ПРОЙДЗЕ 15–16 ЛІПЕНЯ 2017 ГОДА Ў МІНСКУ

Сёмы з'езд беларусаў свету адбудзецца 15–16 ліпеня 2017 года ў Мінску. Дату і месца правядзення зацвердзіла Малая Рада Згуртавання на пасяджэнні, якое адбылося 15 снежня.

Тамсама была вызначана тэма З'езду: "Беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць, беларускае замежжа – выклікі сучаснасці і стратэгія развіцця". Гэтая тэма дазваляе засяродзіць увагу на праблеме захавання дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, што ў святле геапалітычных працэсаў апошняга часу набывае ўсё большую актуальнасць, а таксама разгледзець па-ранейшаму надзённыя праблемы, звязаныя са слабай нацыянальнай ідэнтычнасцю як сярод беларусаў замежжа, гэтак і ў самой Беларусі. Важным аспектам працы З'езду стане выпрацоўка рэкамендацый адносна практычных крокаў для паглыблення ўзаемадзеяння паміж Беларуссю і беларусамі замежжа.

З'езды беларусаў свету ладзяцца Згуртаваннем раз на чатыры гады, пачынаючы ад 1993 года. І кожны з'езд рабіўся важнай падзеяй, этапам у развіцці стасункаў паміж Беларуссю і беларусамі замежжа. Менавіта з ініцыятывы Згуртавання "Бацькаўшчына", агучанай на Трэцім з'ездзе, пачалі фарміравацца прапановы для законапраекта "Аб беларусах замежжа" і дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце". З прыняццем гэтага закона ў 2014 годзе быў юрыдычна замацаваны статус "беларус замежжа" і закладзеная заканадаўчая база для супрацоўніцтва з беларускай дыяспарай, якую цяпер трэба пашыраць і напаўняць практычнымі крокамі.

Прапановы адносна ўзаемадзеяння беларускай дыяспары і Беларусі будуць абмеркаваныя на пленарным пасяджэнні і падчас працы секцый. Малая Рада зацвердзіла 4 секцыі, з якіх Вялікая Рада (куды ўваходзяць прадстаўнікі і кіраўнікі беларускіх арганізацый у замежжы) абярэ тры.

На галасаванне Вялікай Рады вынесены наступныя тэмы секцый: 1) Гістарычныя карані беларускай дзяржаўнасці; 2) Беларуская дыяспара і Беларусь: стратэгія ўзаемадзеяння ў сучасных умовах; 3) Беларуская мова і культура як падмурак дзяржаўнай незалежнасці; 4) Хрысціянства ў Беларусі ў святле 500-годдзя выдання Бібліі Скарыны.

Малая Рада даручыла Управе сфармаваць Арганізацыйны камітэт і Працоўную групу па падрыхтоўцы Сёмага з'езду беларусаў свету, а таксама вызначыць нормы прадстаўніцтва дэлегатаў. Дзеля высвятлення найбольш важных надзённых пытанняў, якія хвалююць арганізацыі беларусаў замежжа, было вырашана правесці апытанне, у якім сабраць прапановы, скіраваныя як да беларускай дзяржавы, так і да грамадскасці. Анкеты будуць дасланыя ў шматлікія беларускія суполкі за мяжой. Каб улічыць меркаванне як мага больш шырокага кола тых, хто займаецца беларускай справай па ўсім свеце, неўзабаве на сайце "Бацькаўшчыны" (zbsb.org) з'явіцца электронная форма апытання.

**Інфармацыйны цэнтр МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»**

# ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА" АБУРАНАЕ ЗВАЛЬНЕННЕМ ВАЛЕРЫЯ ГЕРАСІМАВА З ПАСАДЫ ЗАГАДЧЫКА АДДЗЕЛА СТАРАДРУКАЎ І РЭДКІХ ВЫДАННЯЎ ПРЭЗІДЭНЦКАЙ БІБЛІЯТЭКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

22 снежня 2016 года намеснік старшыні Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Валеры Герасімаў паведаміў, што кіраўніцтва Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, якой ён прысвяціў сорак гадоў свайго жыцця – увесь працоўны стаж, – не падоўжыла з ім працоўны кантракт на наступны год.

Між тым сярод дасягненняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь няпроста знайсці такое, дзе не былі бы заўважны істотны асабісты ўнёсак Валерыя Герасімава. У свой час ён выступіў ініцыятарам шчыльнага супрацоўніцтва з Расійскай нацыянальнай і Расійскай дзяржаўнай бібліятэкамі, ён з'яўляецца аўтарам канцэпцый стварэння паўнатэкставай базы помнікаў канстытуцыйнага права Беларусі і рэтраспектыўнага бібліяграфічнага паказальніка "Гісторыя дзяржавы і права Беларусі" (VI ст. – 1917 г.), якія знаходзяцца ў стадыі актыўнай распрацоўкі. Яшчэ за савецкім часам, калі працоўная ўстанова, для якой Валеры Герасімаў цяпер стаў непатрэбны, насіла назву "Урадавая бібліятэка БССР імя А.М. Горкага", ягоная тэарэтычная распрацоўка адзінай сістэмы бібліятэчна-інфармацыйнага забеспячэння мясцовых органаў улады і кіравання стала базай перадавога досведу для ўсяго Савецкага Саюза. Да ўсяго, Валеры Герасімаў – аўтар некалькіх сотняў навуковых прац і артыкулаў, актыўны ўдзельнік сустрэч з краязнаўцамі, студэнтамі і школьнікамі з мэтай папулярызацыі беларускай кнігі і кнігазнаўства. Ён неаднаразова аказваў дапамогу рэгіянальным бібліятэкам у аднаўленні гістарычных замкавых і палацавых бібліятэк, браў удзел у дзясятках міжнародных канферэнцый і семінараў. Напрыклад, актыўна супрацоўнічаў з арганізатарамі штогадовых канферэнцый "Санкт-Пецярбург і беларуская культура", што ладзяцца Расійскай нацыянальнай бібліятэкаў у Санкт-Пецярбургу, ініцыяваў у 2016 годзе правядзенне ў самім Доме урада прарыўной для дзяржапарату канферэнцыі "Магнаты і шляхта ВКЛ – апора беларускай дзяржаўнасці, асветнікі і фундатары нацыянальнай культуры", а на апошнім VI Міжнародным кангрэсе даследчыкаў Беларусі, які адбыўся ў Каўнасе, ён мадэраваў кнігазнаўчую секцыю ды браў удзел у дыскусіях з польскімі і ўкраінскімі калегамі пра кірылічныя старадрукі ды беларускія гістарычныя бібліятэкі.

Не зважаючы на гэта, такі высокапрафесійны спецыяліст стаў раптоўна непатрэбным. Відавочна, што асноўнай прычынай адмовы ў працягу працоўнага кантракта стала нацыянальная самасвядомасць, актыўная грамадзянская пазіцыя Валерыя Герасімава, якую ён ніколі не хаваў, у тым ліку адстойваючы права на пашырэнне беларускай мовы – тытульнай мовы нашай нацыі, яго любоў да Беларусі, яго жаданне зрабіць для росквіту Радзімы ўсё магчымае.

Так, Валеры Герасімаў – адзін са ставаральнікаў аргкамітэтаў Беларускага народнага фронту "Адраджэнне", таварыства памяці ахвяр палітычных рэпрэсій "Мартыралог Беларусі" і Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, адзін з заснавальнікаў і нязменны намеснік Старшыні Рады Міжнароднай грамадскай арганізацыі "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Акрамя гэтага, ён шчыры актывіст Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны і актыўны ўдзельнік мерапрыемстваў культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!". І гэта невялікі пералік яго грамадскіх заслуг. Па незразумелых прычынах для кіраўніцтва Прэзідэнцкай бібліятэкі такая грамадская актыўнасць Валерыя Герасімава стала непрымальнай.

Мы абураныя тым, што працоўныя кантракты працягваюць выкарыстоўвацца як карны механізм і што не зважаючы на ўсе працоўныя заслугі і дасягненні, рэдкаму спецыялісту па старадруках такога высокага ўзроўню, якім з'яўляецца Валеры Герасімаў, цяпер няма месца ў буйным навуковадаследчым кнігазнаўчым цэнтры – аддзеле старадрукаў і рэдкіх выданняў, – ініцыятарам стварэння якога спадар Валеры у свой час выступіў і які да апошняга часу ўзначальваў.

**Управа МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»**

навіны "Бацькаўшчыны"

# МАКЕЙ СУСТРЭЎСЯ З КІРАЎНІКАМІ "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"

13 снежня 2016 г. адбылася сустрэча Міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Макея з прадстаўнікамі кіраўніцтва Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" Аленай Макоўскай і Нінай Шыдлоўскай.

Прэсавая служба МЗС паведаміла толькі, што "бакі закранулі тэму супрацоўніцтва з беларусамі замежжа ў розных сферах, а таксама пытанні правядзення VII з'езду беларусаў свету". У інтэрв'ю "Радыё Рацыя" Алена Макоўская раскрыла некаторыя падрабязнасці сустрэчы. Паводле яе слоў, сустрэча прайшла па ініцыятыве МЗС, але цікавасць гэтага ведамства да "Бацькаўшчыны" не з'яўляецца нечаканай.

"Як вы ведаеце, – сказала яна, – у 2014 годзе быў прыняты Закон "Аб беларусах замежжа", і "Бацькаўшчына" зрабіла вельмі шмат, каб гэты закон быў прыняты. У адпаведнасці з гэтым законам менавіта МЗС з'яўляецца той установай, якая каардынуе ад імя дзяржавы стасункі з беларусамі замежжа. І напярэдадні кожнага з'езду, – гэта таксама натуральны працэс, – мы звяртаемся да розных дзяржаўных устаноў з тым, каб запрасіць іх на з'езд".

Акрамя таго, пры МЗС працуе Кансультацыйная рада з прадстаўнікоў беларускай дыяспары, "Бацькаўшчына" таксама ў яе ўваходзіць. Тое, што афіцыйная ўлада хоча паглыбіць супрацоўніцтва з беларусамі замежжа, – вельмі важная з'ява, – лічыць Макоўская. Падчас гутаркі з Уладзімірам Макеем таксама абмяркоўваўся беларускі аналаг "карты паляка": "Прадстаўнікі беларускай дыяспары – гэта было агучана на папярэдніх з'ездах – вельмі зацікаўленыя, каб былі зробленыя канкрэтныя крокі для таго, каб яны атрымлівалі нейкую палёгку, прыязджаючы ў нашу краіну. Мы не кажам пра менавіта "карту беларуса", але магчыма ўвядзенне альбо нейкага пасведчання, альбо нейкіх ільготаў, магчымасць атрымліваць бясплатныя візы, палёгкі пры рэгістрацыі, калі беларусы ўязджаюць у саму краіну".

**Стас Дадэрка, "Беларускае Радыё Рацыя"**

навіны "Бацькаўшчыны"

# Алена Макоўская: "СЁННЯ ІДЭІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ ПАДХОПЛІВАЕ ГРАМАДСТВА, БІЗНЕС, МЕДЫІ. І ГЭТА ПОСПЕХ!"



Пра досвед паспяховай рэалізацыі праектаў у галіне нацыянальнай культуры расказвае кіраўніца грамадскай арганізацыі Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", адна са стваральніц і каардынатарка культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!".

**– Алена, што рабіць, калі нацыянальная культура губляе сваю актуальнасць, не адпавядае часу, асацыюецца з мінулым?**

– Я лічу, што нацыянальная культура не можа страціць актуальнасць, пакуль ёсць людзі, для якіх гэтая культура родная. Сведчанне гэтага – сённяшняя беларуская незалежная культура, якая жыве і развіваецца, нават у андэргraўндзе. Яна ўбірае ў сябе сусветныя тэндэнцыі, пераасэнсоўвае іх, рэстаўруе і асучасніває нашы традыцыі.

**– Як разумець словазлучэнне "нацыянальная культура"? Якое вызначэнне з'яўляецца найбольш дакладным у нашым "лічбавым" свеце?**

– Думаю, даваць дэфініцыі мусяць усё ж навукоўцы. Мне найбольш падабаецца вызначэнне нацыянальнай культуры, якое мы выкарыстоўваем у кампаніі "Будзьма беларусамі!". Культура для нас – гэта сістэма каардынатаў, набор каштоўнасцяў, агульных для нацыянальнай супольнасці, якія, уплываюць на ацэнку грамадствам тых ці іншых падзеяў, на пазіцыю грамадзянаў, на штодзённыя паводзіны і побыт. Чалавек не з'яўляецца носьбітам нацыянальнай культуры ад нараджэння. Яна – вынік сацыялізацыі. Цягам усяго нашага жыцця мы спасцігаем, вучымся, засвойваем гэтыя супольныя каштоўнасці праз сям'ю, настаўнікаў, літаратуру і мастацтва, палітычны і грамадскі вопыт. Культурныя каштоўнасці фармуюць наш светапогляд, прыярытэты і ўплываюць на тое, як мы жывем.

**– У чым сутнасць праекту "Будзьма беларусамі!"? На каго ён разлічаны?**

– Кампанія "Будзьма беларусамі!" ўзнікала ў 2008 годзе. На гэта было некалькі прычынаў. Ад 1990 года Згуртаванне "Бацькаўшчына" актыўна працуе з беларускай дыяспарай, што дало магчымасць пабачыць праблемы ў беларускім замежжы. Прычыны праблемаў у дыяспары хаваюцца не там, за мяжой, а тут, дома, у Беларусі. І, адпаведна, тут іх і трэба вырашаць найперш. Таксама мы заўважылі, рост зацікаўленасці грамадства ў сваім, нацыянальным, культурным прадукце. Мы зрэагавалі на гэтую тэндэнцыю. І прапанавалі гэты прадукт. Адным нам было не справіцца – гэта вельмі сур'ёзная задача. Таму, мы пачалі збіраць кола аднадумцаў і партнёраў, спачатку ў сваім сектары – грамадскіх арганізацый сферы культуры, а затым выйшлі па-за яго. Мы пачалі весці перамовы з дзяржаўнымі ўстановамі, шукаць партнёраў у сродках масавай інфармацыі і бізнесе. Мэтавая аўдыторыя ў нас вельмі разнастайная: мы працуем з дзецьмі і моладдзю, з лідарамі меркаванняў і бінесам, медыямі і дзяржаўнымі структурамі па ўсёй Беларусі.

**– Якія мэты перад сабой ставяць арганізатары кампаніі "Будзьма беларусамі!" ("Будзьма!")? На якія вынікі Вы разлічваеце?**

– Для кампаніі "Будзьма беларусамі!" безумоўны поспех, калі нашыя ідэі, нашыя праекты падхопліваюцца грамадствам і далей жывуць сваім жыццём. І не толькі самі ідэі, але і фарматы нашых мерапрыемстваў, метады працы і інструменты, якія мы выкарыстоўваем. Мы гатовыя дзяліцца. Мы бачым, як лідары думак з розных сфераў (бізнесу і дзяржаўных установаў, культуры і спорту) успрымаюць ідэі кампаніі як "свае" і транслююць іх у сваіх асяродках і на шырокую публіку. Гэта таксама паказнік эфектыўнасці і запатрабаванасці нашых ідэй. У Беларусі вельмі складаная гісторыя апошніх стагоддзяў: мы прайшлі праз вялікія культурныя страты, праз спробы замяніць нашу ідэнтычнасць. І сёння, у адрозненне ад шматлікіх народаў, у нас зацікаўленасць сваёй нацыянальнай культурай і гісторыяй часта ідзе не ад бацькоў да дзяцей, а наадварот. Сучасная моладзь нарадзілася ўжо ў незалежнай Беларусі. Для маладых беларусаў робіцца важным адчуваць сваю адметнасць, гонар за прыналежнасць да беларускага народа, таму яны і звяртаюцца да сваёй гісторыі і культуры. Нашая аўдыторыя дастаткова шырокая і не мае ні ўзроставага, ні сацыяльнага, ні моўнага абмежавання.

**– Вы сказалі, што гатовыя дзяліцца не толькі сваімі ідэямі, але і фарматамі мерапрыемстваў. Якія фарматы вы выкарыстоўваеце? Увогуле, якія інструменты эфектыўныя для таго, каб прыцягнуць увагу да нацыянальнай культуры?**

Назаву некалькі найбольш паспяховых фарматаў нашых культурных праектаў: 1) літаратурныя сустрэчы, канцэрты, лекцыі, экскурсіі і выставы. Гэта форма культурных мерапрыемстваў дапамагае "дайсці" да самых розных куткоў Беларусі, пазнаёміць аўдыторыю з сучаснымі творцамі; 2) публічныя дыскусіі ў фармаце ток-шоў. Мы выкарыстоўваем гэты фармат, каб розныя людзі маглі абмеркаваць важныя мясцовыя, грамадскія і культурніцкія праблемы; 3) "Кірмашы праектаў" былі задуманыя намі для павышэння актыўнасці людзей, дапамогі ім у пошуку паплечнікаў і аднадумцаў; 4) фестывалі. Мы ініцыявалі фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі "Аднак!", які праходзіць ужо сем гадоў. Мэта фестывалю – звярнуць увагу бізнесу на беларускую мову як якасны і эфектыўны сродак камунікацыі, крыніцу для нэймінгу і брэндынгу кампаній. А таксама мы правялі шэраг камунікацыйных кампаній, адна з якіх, "Беларусь – краіна цмокаў". Кампанія прывяла да рэбрэндынгу баскетбольнага клуба "Мінск-2006", які стаў называцца "Цмокі-Мінск". Анімацыйны фільм "Будзьма беларусамі!" набраў больш за 1 млн праглядаў на розных сайтах і стаў дапаможнікам па вывучэнні гісторыі Беларусі. Мне вельмі падабаюцца нашыя праекты "Не маўчы па-беларуску", анлайн-праект "Край|BY", музычны праект "Перазагрузка". Нашыя торбачкі і майкі "Будзьма!" ў нацыянальным стылі – зараз яны паўсюль. Прадукцыю з нашай ідэяй – нацыянальны арнамент, складзены з пікселяў-квадратаў, – вырабляюць самыя розныя прадпрыемствы і носяць па ўсёй краіне. Гэту прадукцыю набываюць як сувенір. Гэта модна. Мы імкнёмся рабіць нашыя праекты крэатыўнымі і інавацыйнымі.

**– Што на ваш погляд з'яўляецца памылкамі, недахопамі, наступствам няправільных стэрэатыпаў падчас рэалізацыі праектаў у галіне нацыянальнай культуры?**

– Не сакрэт, што да 2008 года візуальная нацыянальная прадукцыя была ў асноўным палітызаваная. Нацыянальныя сімвалы лічыліся апазіцыйнымі. Мы прапанавалі іншае рашэнне – зараз нацыянальны прадукт не прымушае чалавека дэкляраваць сваю палітычную пазіцыю. Падругое, доўгі час беларускамоўная культура, асацыяваліся выключна з вёскай, з саламянымі капелюшамі і традыцыйнымі спевамі. Сёння гэта тэндэнцыя радыкальна змяняецца Беларуская мова з вёскі "пераехала" ў горад. Яна ўжо не асацыюецца з нечым занядбаным ці музейным. Паводле вынікаў нядаўніх сацапытанняў, цяпер людзі ў большасці сваёй лічаць, што на беларускай мове размаўляюць не вяскоўцы, а патрыёты і нацыянальная эліта. Праблема многіх праектаў у галіне культуры зараз – слабы камунікацыйны складнік. Ініцыятары ці распрацоўшчыкі вельмі шмат сілаў і часу ўкладаюць у сам прадукт, і гэта вельмі добра! Але інфармацыйная, маркетынгавая праца застаецца па-за ўвагай. У выніку гэты прадукт "даходзіць" толькі да абмежаванага кола людзей. Для праектаў у галіне нацыянальнай культуры ў Беларусі ўсё яшчэ актуальныя пытанні "як выйсці з "падполля"?", "Як перастаць быць субкультурай?", "Як стаць "сваёй" для ўсіх беларусаў?". Каб адказаць на гэтыя выклікі, трэба аб'ядноўваць намаганні грамадскіх актывістаў і арганізацый, творцаў, медыяў, бізнесу і дзяржавы. Пакуль у Беларусі немагчыма задзейнічаць усе гэтыя інструменты разам. Таму трэба шукаць крэатыўныя падыходы.

culturepartnership.eu

салідарнасць

# ЧАМУ ВАРТА ЗАХАВАЦЬ “БЕЛСАТ”? ЭКСПЕРТЫ ТЛУМАЧАЦЬ НА ПАЛЬЦАХ!

У сувязі з сітуацыяй, якая склалася вакол тэлеканала “Белсат”, неабходна растлумачыць, чаму гэты канал важны для Беларусі, беларускай мовы і культуры.

Каб разабрацца ў гэтым, мы зрабілі невялікі дайджэст з выказваннямі вядомых у Беларусі людзей і адмыслоўцаў адносна таго, чаму неабходна захаваць тэлеканал “Белсат”.

### Міхал Анемпадыстаў, дызайнер:



Рэакцыя на закрыццё “Белсата” яшчэ раз прадэманстравала нашу няздольнасць думаць нацыянальнымі інтарэсамі і абараняць іх. Нават там, дзе нічога не трэба рабіць, проста выказаць сваю салідарнасць, пацвердзіць патрэбу ў існаванні праекта. Я не веру ў тое, што мы настолькі абмежаваныя ў разумовых здольнасцях, што не ўстане зразумець элементарных рэчаў – тое, што чым болей гульцоў на беларускім баку медыйнага поля, тым яно мацнейшае, што шырокая і розная медыйная прастора неабходная для нармальнага функцыянавання культуры, мовы, палітыкі, думкі. Што тое, што вакол адбываецца, трэба дакументаваць для гісторыі і асэнсоўваць у публічнай прасторы для саміх сябе. “Белсат” даваў такія магчымасці. Прычым за грошы польскага падаткаплацельшчыка, дзякуй яму за гэта. Дык нават так нам не трэба! Бо не так і не тое. Мы лепей скінемся на сваё. Не скінемся. Мы нават тое, што мелі, не змаглі ўтрымаць. Падумаеш, канал. Значна важней паказаць уласную арыгінальную пазіцыю, важней абмяркоўваць тэзісы, што ў “Белсаце” не так, чым у патрэбны момант проста паставіць ім лайк. Мы так моцна не любім сваё і сваіх, што любая нагода пхнуць нагой — для нас Свята. Асабліва тых, хто нешта робіць. Цяпер гэта стала рабіць яшчэ лягчэй, бо замест звычайнай людскасці і годнасці на першым месцы стаіць культура дыскусіі і права на ўласны пункт гледжання. І гэта тое, што нам трэба! Цяпер нашыя цёмныя подлыя рысы набылі элегантны ліберальны глянец. Зацкаваць Чмыра і Кацю мы можам. Выцягнуць з-за кратаў Пальчыса, ці ўратаваць “Белсат” – не. А хочам будаваць краіну. З канапы. З дапамогай каментаў, што і хто зрабіў не так і якія казлы палітыкі, што яны чарговы раз не дамовіліся. А мы такія харошыя, разумныя, чэсныя. Ціпа. Без сапляў.

### Аляксандр Мілінкевіч, палітык:



Ліквідацыяй “Белсата” Варшава прайграе барацьбу на беларускім інфармацыйным полі Маскве. Астатняе зробіць Камуністычная партыя Беларусі, лідар якой пару дзён таму стаў міністрам адукацыі. “Русский мир” святкуе.

### Сяргей Харэўскі, мастацтвазнаўца:



Ёсць яшчэ багата няўлічаных фактаў. “Белсат” можна глядзець (і глядзяць!) у Берліне, Празе, нават у Кішынёве і ў далёкай Тыране… “Белсат” – гэта таксама ўнікальныя кінадакументальныя і культурныя праекты. А перадусім – магчымасць прафесійнае рэалізацыі і практычнага навучання для вялікага кола людзей. Гэта захаванне нашага інтэлектуальнага патэнцыялу, кваліфікацыі тэлевізійшчыкаў. Не разумець гэтага – тое самае, што адмаўляць патрэбу ў фінансаванні навукі ці музеяў. Маўляў, давайце, самі складайцеся на Акадэмію навук ці Нацыянальны музей… Можна быць самотным мастацтвазнаўцам, музыкам, паэтам, мастаком. Але пакуль немагчыма забяспечыць на валанцёрскіх пачатках легальнае існаванне цалкам незалежнае медыйнае ці акадэмічнае інстытуцыі ў нашай краіне! Пры тым, заўважу, пра што маўчаць глумлівыя зласліўцы – “Белсат” працуе ў Беларусі фактычна падпольна! Бо не мае акрэдытацыі! Ці ўяўляў сябе хто на месцы рэпарцёра ці аператара, якім увесь час трэба азірацца, а пасля на фактычна канспіратыўных адрасах нешта дарабляць? Як можна адэкватна параўноўваць гэты праект з іншымі праектамі, што існуюць прынамсі афіцыйна? А тэлевізія – вельмі дарагі праект, што мусіць існаваць за кошт рэкламы. І як вы сабе ўяўляеце эфектыўную рэкламу на нелегальным тэлебачанні? У святле сённяшняй сітуацыі знікненне “Белсата” стане чарговай катастрофай. Людзі, кожны паасобку, урэшце дадуць сабе рады, але не ў гэтай сферы, не на гэтай мове і, бадай, не ў гэтай краіне. Каб зноў сабраць такі калектыў і падрыхтаваць уласныя кадры, спатрэбяцца гады, доўгія гады…

### Зміцер Міцкевіч, эксперт BSBlog:



Калі палякі вырашылі знішчыць “Белсат”, то гэта яшчэ адзін знак, што ў палітыцы ў іх, як і сто гадоў таму, кіруюць беспрасветныя рамантыкі. А палітычная рамантыка, як вядома, нічым добрым не заканчваецца. Вось так, напрыклад, польскія палітыкі шчыра вераць у тое, што, закрыўшы “Белсат”, яны адразу атрымаюць ад Беларусі магчымасць уключыць у нашыя сеткі TV Polonia. І будуць мясцовыя палякі ведаць, што ў радзімай Польшчы робіцца, ды пранікацца польскім духам. Але тут ёсць два нюансы.

Па-першае, калі нехта палякам нешта паабяцаў, то абсалютна не факт, што гэта будзе зроблена. Не раз ужо такое праходзілі. Але ж рамантыкі шчыра ў гэта вераць.

Па-другое, у “Белсата” ў Беларусі ёсць вялікая аўдыторыя, якая пастаянна пашыраецца, і калі б не было перашкодаў з боку ўладаў, была б значна большай, чым у дзяржаўных СМІ. А вось рэйтынг TV Polonia будзе ў межах статыстычнай хібнасці, бо нафіг нікому не ўпала ў нас польскае ТБ па-польску пра Польшчу.

Чаму? А вось вам цудоўная статыстыка пра так званых “палякаў” на Беларусі, пра якіх так клапоцяцца старыя PiSаўцы: 58% беларускіх “палякаў” назвалі сваёй роднай мовай беларускую, 34% – рускую, 5% – польскую. То бок сапраўдных палякаў – у межах 15 тысяч. І нават яны будуць глядзець НТВ і РТР, а не панылае TV Polonia з серыяламі сярэдзіны 1990-х.

### Андрэй Дынько, шэф-рэдактар “Нашай Нівы”:



Калі браць у гістарычным маштабе, то “Белсат” – гіганцкая інвестыцыя Польшчы ў беларушчыну. Пад 40 мільёнаў даляраў агульная сума. “Радыё Свабода”, ЕГУ і “Белсат” – гэта, бадай, найбольшыя інвестыцыі Захаду ў беларускую культуру, інфармацыю і навуку за ўсе часы. Гэта пытанне ўжо да беларусаў, як яны выкарысталі інвестыцыі, якія ішлі ім у рукі.

**“Будзьма беларусамі!” паводле дописаў у facebook.com**

## “БАЦЬКАЎШЧЫНА” ЗВЯРНУЛАСЯ ДА ПОЛЬСКІХ УЛАДАЎ З ПРОСЬБАЙ ЗАХАВАЦЬ “БЕЛСАТ”

Занепакоеная тым, што адзіны ў свеце тэлеканал, які рэгулярна трансляваў альтэрнатыўны погляд на падзеі ўнутры Беларусі і за мяжой на беларускай мове, зараз пад пагрозай закрыцця, Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” заклікала Міністэрства замежных справаў Польшчы не скарачаць фундаванне “Белсата” і не пераводзіць канал на рускую мову, бо гэта нанясе істотны ўдар па дэмакратычным развіцці беларускага грамадства. “Белсат” цягам дзевяці гадоў забяспечваў правы нашых грамадзянаў на аб’ектыўную, нецэнзураваную інфармацыю і свабоду слова – на тое, чаго мы не маем унутры нашай краіны.

З падрабязнасцямі звароту і ўзорамі петыцый, якія вы можаце таксама даслаць на знак салідарнасці з тэлежурналістамі, можна пазнаёміцца на нашым сайце zbsb.org.

**Інфармацыйная служба МГА «ЗБС “Бацькаўшчына”»**

гутарка

# “МАЯ СВЯКРОЎКА БЫЛА ГАТОВАЯ АДДАЦЬ ЖЫЦЦЁ ЗА КАМАНДАНТЭ КАСТРА”, – АЛЕНА БРАВА ПРА ТОЕ, ЯК КУБА РАЗБІЛА ЯЕ ІЛЮЗІІ

Аўтарка аповесці “Каменданцкі час для ластавак” (2004), уганараванай беларускай прэміяй “Гліняны Вялес” і міжнароднай прэміяй “Silver bullet”, Алена Брава распавядае, як, пабраўшыся шлюбам з кубінцам і трапіўшы на Кубу ў 1989-м, праз год літаральна ўцякла дахаты, ратуючы сябе і маленькую дачку.

**Аляксандра Дынько: Як Вы трапілі на Кубу? Якім чалавекамВы былі ў той час і з якімі пачуццямі туды паехалі?**

**Алена Брава:** Я пабралася шлюбам з кубінцам, калі вучылася ў БДУ. І, скончыўшы факультэт журналістыкі ў 1989 годзе, я сышла на кубінскую зямлю разам са сваім мужам. У горадзе Сант’ягада-Куба, так званай усходняй сталіцы Кубы, я і прабыла ўвесь час свайго знаходжання ў гэтай краіне. У 1990-м я вярнулася ў Беларусь. Больш было немагчыма трываць. На Кубе я сустракалася з вялікай колькасцю так званых саўкубінак, дзяўчатамі з розных рэспублік СССР, якія пабраліся шлюбам з кубінцамі. Мы сябравалі, дапамагалі адна адной. Я сябравала з кубінскімі мастакамі і артыстамі. А вось са сваякамі мужа дыскутавала. З усяго перажытага, што я запісвала ў дзённіках, і выспела мая аповесць “Каменданцкі час для ластавак”.

**АД: Чым прывабіў Вас гэты чалавек?**

**АБ:** Безумоўна, гэта было каханне. Калі я ехала на Кубу, не думала, што вярнуся дамоў. Ён, вядома, адрозніваўся ад беларускіх хлопцаў. У той час Куба здавалася вельмі рамантычнай краінай. Я мела ў той час настальгію па сапраўдным. Ад фальшу савецкай рэчаіснасці хацелася збегчы. Сапраўднасць, якая, як мне здавалася, ёсць у кубінскай рэвалюцыі, вабіла. Калі ілюзіі разбіваюцца, ты сустракаешся з рэальнасцю, і гэта шмат што мяняе ў чалавеку.

**АД: І як сустрэла Вас гэтая рэальнасць?**

**АБ:** Я імкнулася праз характары, побыт, стасункі людзей адлюстраваць таталітарнае грамадства. Татальны дэфіцыт, бясконцыя чэргі на фоне бадзёрых дэманстрацыяў з аптымістычнымі лозунгамі. Мне “пашанцавала” трапіць на Кубу ў час “асаблівага перыяду”, калі дапамога з боку СССР раптам спынілася. На той момант рэвалюцыі было 30 гадоў, але вартай урадавай праграмы, якая запусціла б эканоміку, не з’явілася. Мне перш за ўсё трэба было думаць пра тое, як накарміць, адзець дзіця. І вось пустыя паліцы ў крамах у літаральным сэнсе... Аўтобусы і машыны без вокнаў і дзвярэй… Чэргі, якія трэба займаць увечары: а другой гадзіне ночы рабілася першая пераклічка, а шостай гадзіне – другая, а ўранку людзі ўваходзілі ў краму праз паліцэйскі кардон... У крамах нармаванага гандлю людзі атрымлівалі харчы па картках – невялікая колькасць рысу, фасолі, цукру, кавы і некаторыя іншыя прадукты. Ежу і рэчы першай неабходнасці можна было набыць у свабодным гандлі. Але ў тых крамах пры сярэднім заробку ў 180-200 песа дзіцячы абутак каштаваў 40-50 песа. Вентылятар – 600, лядоўня – паўтары тысячы. А чацвёртай гадзіне раніцы хтосьці з нашай сям’і выпраўляўся на пошукі прадуктаў у горад. Некалькі яек, кавалак гарбуза ці рэпа – гэта вельмі ўдалы дзень. Чалавек па 200 стаялі штодня па хлеб, прычым набыць яго можна было толькі ў той булачнай, да якой прыпісаная ваша сям’я. Людзі разводзілі цукар у вадзе, каб паснедаць. Суседка радавалася, што праз сваю цяжарнасць зможа атрымліваць адно курынае крыльца на тыдзень у дадатак да асноўнага



набору прадуктаў. Многія кубінцы жылі ў дамах больш-менш уладкаваных, але былі проста неверагодныя халупы. Найлепшыя гатункі манга псаваліся на Гран П’едра, але ў крамах не было ні сокаў, ні садавіны. Апельсіны выдаваліся хворым па картках.

**АД: Але чаму гэтага не рабілася?**

**АБ:** Я прыйшла да высновы, што пэўную ролю адыграла абыякавасць саміх кубінцаў. Яны былі ідавочна не зацікаўленыя ў выніках сваёй працы. У людзях знікла ўсялякая ініцыятыва. Не было ніякага эканамічнага стымулу працаваць больш, лепш, штосьці зарабіць. А нармаваныя прадукты ты так ці інакш па картках атрымаеш. У мяне склалася ўражанне, што шараговы кубінец жыў адным днём. Дакладней, вечарам. Менавіта ўвечары жыццё і пачыналася: ром, піва, скокі пад музыку, міні-карнавалы – фіесты. Людзі, асабліва старэйшае пакаленне, верылі свайму камандантэ, любілі яго, некаторыя нават былі гатовыя дзеля яго ахвяраваць жыццём. Мая свякроўка была з такіх. Я імкнулася адкрыць вочы сваім новым знаёмым, але людзі ў літаральным сэнсе затулялі вушы. Былі сярод кубінцаў і тыя, у каго ўсё гэта магло выклікаць толькі жаданне бегчы з краіны. Маладыя слухалі так званыя варожыя галасы, перадавалі адзін аднаму кнігі кубінскіх пісьменнікаў, якія на той момант пакінулі краіну, і іхныя кнігі былі забароненыя. Калі муж адной маёй сяброўкі ішоў на працу, мы слухалі амерыканскае Радыё Марці, глядзелі гарбачоўскае тэлебачанне, чыталі савецкія выданні для замежнікаў – на Кубе ўсё гэта было забароненае. Прэса часоў перабудовы пісала пра рэпрэсіі на Кубе. Да нас, савецкіх жанчын, сталі ставіцца з падазронасцю. Знайсці працу было немагчыма. Я шукала яе ўвесь год, аднак мне гэтага не ўдалося. У той час многія кубінцы спрабавалі пакінуць Кубу. Найбольш адчайныя рабілі гэта праз Флорыдскі праліў на гумовых камерах, рызыкуючы жыццём. Але шмат каму ўдалося з’ехаць.

**АД: Ці Вы не баяліся тады, што Вас будуць пераследаваць за тыя думкі, якія выказваеце?**

**АБ:** Я толькі постфактум прыйшла да думкі, што так магло быць. Практычна ў кожнай сям’і былі чальцы так званага Камітэту абароны рэвалюцыі. Мая свякроў была яе сябрам. У іхны абавязак уваходзіла паведамляць пра розныя контррэвалюцыйныя рэчы. Аднойчы мне давялося сутыкнуцца са спецслужбамі – насупраць нашага дома ўночы павесілі лозунг “Далоў Фідэля”. Да нас завітаў прадстаўнік спецслужбаў, доўга размаўляў з маёй свекрывёй.

**АД: Што такое быць жанчынай у тых умовах? Ці быў гэта досвед, адрозны ад савецкага?**

**АБ:** Напэўна, я была дрэннай жонкай для мужа-кубінца. У канцы мне так і было сказана. Для кубінскай жанчыны яе мужчына – бог. Яна робіць усё, каб яму падабацца ва ўсіх сэнсах гэтага слова. Яна не будзе губляць час на тое, каб рабіць нататкі ў дзённіку, чытаць. Аднойчы я ў краме пабачыла, што на адной сценцы напісана “чарга для мужчын”, а на супрацьлеглай – “чарга для жанчын”. Шмат жанчын і два-тры мужчыны, кожны ў сваёй чарзе. Я гучна запыталася: “Што гэта такое?”, на мяне сталі абарочвацца, тады муж мяне вывеў і кажа: так мусіць быць, жанчыны на Кубе пераважна не працуюць, трэба берагчы час мужчынаў. Я запыталася: “А як жа твая сястра-хірург, якая робіць складаныя аперацыі?” Ён згадзіўся, але ўсё роўна лічыў, што стаяць у чэргах – выключна жаночая справа.

**АД: Ёсць стаўленне да Кубы як да сэксуальна разняволенай краіны? Гэта прыкмета...**

**АБ:** ...Тэмпераменту і традыцыі. У чарзе там часцей за ўсё пачуеш пра тое, хто з кім, куды, калі. Па тэлебачанні былі адукацыйныя праграмы, дзе вядучая пыталася ў 14–15-гадовых дзяўчат менавіта пра іх сэксуальныя кантакты. Былі цэлыя кварталы так званых “дамоў для сустрэч”, куды маглі прыйсці каханкі і правесці там час.

**АД: Як прысутнічаў у жыцці кубінцаў Фідэль Кастра? Якім вы яго ўяўлялі?**

**АБ:** Свякроўка казала: “Чалавек мусіць задавальняцца талеркай рысу ў дзень у цяжкі для краіны перыяд”. Я аднойчы натрапіла на лісты, якія Кастра пісаў з турмы: “Мне дастаткова адной стравы з малагі ці бульбы... Я магу жыць на 40 разумна выкарыстаных сэнтава ў дзень... Усё гэта робіць з мяне палымянага, загартаванага ідэйнага барацьбіта...” Але карпатлівая праца па эканамічным уладкавання краіны не для рамантыкаў. Фідэль, калі атрымаў уладу, вельмі хутка стаў прагматыкам. У інтэрв’ю 1959 года ён клянецца, што ніколі не стане камуністам. Але спатрэбілася дапамога Саветаў – і камуністам ён стаў. Многія кубінцы лічылі аскетызм галоўнай запаведдзю рэвалюцыянера. А мне, калі я прачытала працытаваны ліст, згадаліся словы Б.Пастэрнака: “Рэвалюцыю робяць геніі самаабмежавання за некалькі гадзін, а потым дзесяцігоддзямі людзі пакланяюцца духу абмежаванасці як святыні”. Гэты дух абмежаванасці – маю на ўвазе свядомасць людзей – вельмі моцна адчуваўся на Кубе. Калі б Фідэль сышоў своечасова, ён застаўся б у памяці героем, які са жменькай паплечнікаў штурмаваў узброеную цытадэль. Але ён застанецца ў памяці нашчадкаў кіраўніком краіны, які за 50 гадоў улады не здолеў узняць узровень жыцця людзей, якія яму паверылі і пайшлі за ім.

**АД: Ці сям’я вашага мужа была прыхільнікам рэвалюцыйных ідэяў і што стала цяпер з іхнымі поглядамі?**

**АБ:** Муж быў прыхільнікам рэвалюцыйных ідэяў, і ўся сям’я таксама. Ягоны бацька быў сярод тых, хто ўсталёўваў уладу “барбудас” у правінцыі Сант’яга-дэ-Куба. Маці паказвала мне свой фотаздымак, дзе яна стаіць у вайсковай форме, са зброяй. Спробы ўздзейнічаць на мужа натыкаліся на неразуменне. Цяпер ён змяніў погляды, але не любіць пра гэта гаварыць. Час ад часу ездзіць на Кубу, каб пабачыць маці і сваякоў. “Хоць крыху лепей?” – пытаюся. “Крыху, але ўсё тое самае”. Ужо ў крамах ёсць 1–2 гатункі нейкай каўбасы, але карткавая сістэма па-ранейшаму захоўваецца.

Аляксандра Дынько, “Радыё Свабода”

навіны

## ГЛЫТОК ПАВЕТРА З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

У эстонскім горадзе Кохтла-Ярве прайшоў Трэці фестываль беларускай песні "Родныя напевы".

Арганізавала свята беларускае культурнае таварыства "Беларуска-Эстонскае Згуртаванне" – "БЭЗ", якім кіруе Зінаіда Клыга.

Гасцямі ды ўдзельнікамі фестывалю сталі ансамблі беларускай песні Талінскага беларускага культурнага таварыства "Лёс", Беларускага культурнага таварыства "Ялінка" з г. Маарду. Выступаў ансамбль беларускай песні з нашай нарвскай суполкі "Сябры". Спявалі, вядома ж, і гаспадары. Чаканымі гасцямі сталі артысты з Беларусі – з Салігорскага раёна ды Салігорска – трыа цымбалістак "Натхненне" і вакальны гурт "Заранка". Узначаліла дэлегацыю Наталля Навіцкая, дэпутатка Салігорскага райсавета дэпутатаў. Напярэдадні салігорскія госці разам з мясцовым ансамблем "Калина красная" далі вялікі канцэрт у мызе Мяэтагузе для жыхароў воласці.

Ганаровымі гасцямі фестывалю былі Пасол Беларусі ў Эстоніі Анатоль Сцепусь, кіраўнік парламенцкай групы "Эстонія – Беларусь" Валеры Корб, мэр Кохтла-Ярве Людміла Янчанка, прадстаўнік Мінкультуры Эстоніі Эдуард Адзінец, павятовы сакратар Ідa-Вірумаа Эве Эаст, валасны старэйшына Йыхві Эдуард Эаст, кіраўнік "круглага стала" пры старэйшыне Іда-Вірумаа Аляксандр Дусман і прадстаўнікі мясцовых самакіраванняў Паўночнага Усходу Эстоніі.

Пасля канцэрта ўсе ўдзельнікі змаглі бліжэй пазнаёміцца адзін з адным. Сяброўскія гутаркі з артыстамі гурта "Заранка" на роднай беларускай мове былі для ўсіх нас, беларусаў Эстоніі, своеасаблівым глытком паветра з Бацькаўшчыны.

**Віктар Байкачоў, г. Нарва, Эстонія**

навіны

## СВЯТА РАЗАМ З СЯБРАМІ

13 снежня 2016 года ў канцэртнай зале Палаца культуры "Заря" гарадской акругі Самара прайшоў канцэрт лаўрэатаў XII Абласнога беларускага дзіцяча-юнацкага конкурсу-фестывалю мастацтваў "Беларусь – мая песня!".

Арганізатарам выступіла Самарская абласная грамадская арганізацыя беларусаў "Руска-Беларускае Братэрства 2000" пры падтрымцы Адміністрацыі і Думы гарадской акругі Самара, Адміністрацыі Савецкага унутрыгарадскога раёна г.а. Самара і Дома дружбы народаў Самарскай вобласці. З вітальным словам выступілі прэзідэнт "Руска-Беларускага Братэрства 2000" Ірына Глуская, спецыяліст дэпартамента грамадскіх і знешніх сувязяў Адміністрацыі г.а. Самара Дзмітрый Далганаў, намеснік кіраўніка адміністрацыі Савецкага ўнутрыгарадскога раёна г.а. Самара Ганна Крывашчокава, дэпутат Думы г.а. Самара Валерый Барсук, кіраўнік г.а. Самара Алег Фурсаў, а таксама прадстаўнікі адміністрацый школ-партнёраў фестывалю...

Паперад гледачамі выступілі ансамблі беларускай песні "Каданс", "Преображение", вакальны дуэт у складзе Веры Дарма, Валерыі Паповай і ансамбля гітарыстаў – Алсу Булатавай, Паліны Качкан, Алены Чугунавай і Лізаветы Заікінай, – а таксама Ксенія Гуськова. У другім аддзяленні былі прадстаўлены нумары нацыянальных культур іншых народаў, якія пражываюць у Самарскай вобласці. З песняй на армянскай і беларускай мовах выступілі спявачкі Анастасія Гуркіна і Арына Камісарава. Арына таксама крапальна праспявала "Чырвону руту." Габрэйскі танец "Сем сорак" выканаў калектыў "Диво". Крупнова Кацярына і Кузняцова Сафія выканалі песню "Вянок Дуная", ансамбль "Вдохновение" станчыў кітайскі танец "Лотас". Пры канцы канцэрта Аліна Чаркіна спела песню "Дети земли".

**Мікалай Бойка**

навіны "Бацькаўшчыны"

## СНЕЖАНЬ З "БУДЗЬМА!"

### Багдановіч з Імправізацыяй

**1 снежня** ў Школе мастацтваў **г. Беразіно Мінскай вобласці** адбылася вечарына ў межах кампаніі "Пяцісотгоднасць", арганізаваная Саюзам беларускіх пісьменнікаў і ЗБС "Бацькаўшчына" ў межах грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!". Школу наведалі паэт Віктар Сямашка і музыкі Лявон Нарушэвіч з Дзянісам Кудраўцавым. Навучэнцы слухалі, як нараджаецца музыка падчас сумеснай імправізацыі. Таксама Гучалі меладэкламацыі на вершы Максіма Багдановіча. Пасля ўдзельнікі сустрэчы прынялі ўдзел у віктарыне па беларускай літаратуры і кнігадрукаванні. Самыя кемлівыя атрымалі прызы.

### Скобла – імя славэтнае

**У сталічным Музеі Максіма Багдановіча** адбылася прэзентацыя дзвюх кніг вядомага паэта **Міхася Скоблы**, якая супала з яго 50-годдзем. Зборнікі вершаў "Камізэлька для месяца" і эсэ "Саркафагі страху". Паэт **Анатоль Вярцінскі** прысвяціў юбіляру верш, павіншаваў літаратара і рэдактар абедзьвюх кніг, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў **Барыс Пятровіч**. **Яраш Малішэўскі** здзівіў усіх віншаваннем на мове часоў Скарыны: "Міхал Скобла – імя славэтнае, а хто яго не ведае, той лотр, фальшэр і блюзнер плюгавы." Галоўная рэдактарка "Нашай веры" **Хрысціна Лялько** прынесла на вечарыну часопіс з новымі вершамі юбіляра, **Сяргей Чыгрын** са Слоніма падараваў рарытэтны старадрук, **Аксана Спрынчан** прызналася юбіляру ў каханні, **Антаніна Хатэнка** ўпляла ў верш-віншаванне. Музычна аздобілі вечарыну **Вальжына Цярэшчанка, Таццяна Грыневіч-Матафонава** і **Юры Несцярэнка.**

**Святлана ТОЎСЦІК**

кніга

## ПАБАЧЫЛА СВЕТ ВЫДАННЕ "ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ: СШЫТАК 2"

Зборнік складаецца з матэрыялаў, дасланых на конкурс да дваццаціпяцігоддзя МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

Працы, прысвечаныя з'явам, так ці інакш звязаным з беларускім замежжам, былі ацэненыя міжнародным журы (Н.Гардзіенка і В.Герасімаў з Мінска, а таксама Я.Запруднік, В.Кіпель і Л.Юрэвіч з Нью-Ёрка). Паводле іх меркавання, узровень тэкстаў сур'ёзна вырас у параўнанні з працамі "Сшытка 1", які выйшаў у 2005 годзе.

Матэрыялы зборніка могуць зацікавіць як аматараў, так і навукоўцаў, якія цікавяцца гісторыяй і культурай Беларусі.

**zbsb.org**




юбілей

## ЛІТАРАТУРНАЕ "БЯЗМЕЖЖА". ТЫДНЁВІКУ "НІВА" – 60!

16–18 снежня на Падляшшы адбыўся традыцыйны штогадовы літаратурны семінар з удзелам пісьменнікаў, выдаўцоў, журналістаў з Беласточчыны і Беларусі. Сёлета "Бязмежжа" было прымеркавана да юбілею легендарнай газеты "Ніва".

Насычаная трохдзённая праграма семінара ўвабрала ў сябе лекцыі, радыйныя рэпартажы, дакументальныя відэасюжэты, прэзентацыі кніг, дыскусіі, паэтычныя чытанні і музычныя выступы. Мадэратарам сустрэч выступіў Яўген Вапа.

З беларускага боку ў фэсце ўзялі ўдзел: літаратурны крытык Ціхан Чарнякевіч (лекцыя пра Максіма Багдановіча), выканаўца Зміцер Бартосік (спевы і прэзентацыя кнігі "Быў у пана верабейка гаварушчы"), пісьменніца Паліна Качаткова (з новай кнігай "Гняздо-2"), музыкант і пісьменнік Юры Несцярэнка (з перакладамі на беларускую мову песень Андрэя Макарэвіча), гродзенскі аўтар Янка Трацяк, паэты Ірына Мацкевіч, Віталь Рыжкоў і Віка Трэнас.



Ад імя ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" прадстаўнікам рэдакцыі быў уручаны віншавальны адрас з нагоды юбілею тыднёвіка "Ніва".

Беларуская дэлегацыя паўдзельнічала ў цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў XIX-га літаратурнага конкурсу "Дэбют" у Беластоку.

**Віка Трэнас, для lit-bel.org**

**Юбілей**

# "ОЙ ТЫ, КРАЙ МОЙ ЗАЛАТЫ". ПАДАРОЖЖА НА РАДЗІМУ МІХАСЯ КАВЫЛЯ НАПЯРЭДАДНІ 101-Х УГОДКАЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

Паэту Міхасю Кавылю 1 снежня споўніўся 101 год.



Сапраўднае імя гэтага чалавека – Язэп Казіміравіч Лешчанка. Ён нарадзіўся ў вёсцы Покрашава, што на Случчыне. Вучыўся ў Беларускім педагагічным тэхнікуме. Быў сябрам літаратурнага аб'яднання "Маладняк". Друкаваўся з 1929 года. У 1933 годзе "быў арыштаваны і асуджаны на 3 гады зняволення па справе "Беларускай народнай Грамады". Пакаранне адбываў на Далёкім Усходзе. У 1935 годзе вызвалены, да 1941-га жыў у Варонежы, дзе вучыўся ў педагагічным інстытуце, працаваў на машынабудаўнічым заводзе "Камінтэрн", настаўнічаў. З Варонежа быў мабілізаваны ў Чырвоную армію. У 1942-м трапіў у палон. Але ў 43-м выйшаў на волю і вярнуўся ў Менск, скончыўшы прапагандысцкія курсы Саюза беларускай моладзі. У Менску працаваў у аддзеле прапаганды. Пасля вайны пераехаў у ЗША, дзе жыве і па сёння.

Едучы ў Покрашава, я зусім не спадзяваўся знайсці тых, хто памятае Язэпа Лешчанку. І блукаючы па покрашаўскіх вуліцах, каля неагатычных будынкаў слуцкага воцатнага завода, нічога талковага не мог дабіцца ад людзей. Бо імя Міхась Кавыль людзям было невядомае. Пакуль адна спадарыня не накіравала мяне да Сяргея Шклярэўскага. Ён, сказала мне спадарыня, "ведае ў Покрашаве ўсіх. І жывых, і мёртвых".

Сяргей Шклярэўскі – сапраўды ўнікальны чалавек. І не толькі для Покрашава, а для ўсёй краіны. Гэты сівы, спакойны, разважлівы, з цёплай усмешкай у вачах, немалады чалавек працуе ў Покрашаве фельчарам. Працуе 66 гадоў. На адным месцы. Ад 1950 года. Сёньняшні час Шклярэўскі называе адпачынкам у параўнанні з пяцідзясятымі, калі пачынаў тут сваю фельчарскую практыку.

– Прыязджалі хто на ровары, хто на кані. Хто пешкі. І просяць: "Дапамажыце, дзіця паміра". Альбо роды пачаліся. Тады ж роды ў хаце ўсе былі. Тады мы з акушэркай прымалі па семдзесят родаў на год. Былі і драматычныя выпадкі. Але выходзіў пераможцам. У антысанітарных умовах, у хаце. Ёдам руку абліваеш, залазіш па локаць – і матку пазногцямі. Бо інакш упусціш момант, і... У чалавеку чатыры літры крыві. І калі яна цячэ струменьчыкам, праз дваццаць хвілін і вочы на лоб пойдуць. А цяпер чатыры-пяць родаў. І ўсё ў радзільных дамах. А тады дарогі якія былі? Асфальту ж не было. Коньмі па купінах. Працавалі напружана. А хірургічныя хворыя? Цяпер мо за ўвесь год які апендыцыт трапіцца. А тады то заварот кішак, то апендыкс, то прабадная язва. Амаль кожны дзень.

Імя Міхася Кавыля старому фельчару добра вядомае. Спачатку пра Язэпа Лешчанку ўсё, што можна, выпытвалі паваенныя савецкія эмгэбэшнікі. А пасля да Покрашава з Амерыкі дайшлі кнігі Міхася Кавыля.

– На вайне ён трапіў у палон. Напэўна, пакрыўджаны быў на ўладу, што яго незаконна арыштавалі і пасадзілі. І пайшоў служыць немцам. Хлопец быў граматны. І ў Менску быў ідэалагічным работнікам. Ну, а калі адступалі, сышоў з немцамі. Працаваў на заводзе ў Германіі. Траўміраваў руку. А пасля нейкім чынам у Амерыцы апынуўся. Ім цікавіліся нашы органы. Пасля вайны. Часта з сельсавету прыходзілі. "Ці ёсць сувязь хоць нейкая?" У яго тут засталася маці, тры сястры. Ва ўсіх сёстраў дзеці. Ён там ажаніўся з дачкой былога паліцыянта. Яна смела прыязджала да нас у вёску. Кнігі яго я чытаў. Настолькі яго кнігі прасякнутыя тугой па Радзіме! Успамінае і вяз гэты, што каля іх расце, і сцежкі, па якіх хадзіў, і дзяўчыну, якой сімпатызаваў. Па родзе сваім, па ўсім вельмі станоўчы чалавек. Але так склаўся лёс...

Са спадаром Шклярэўскім мы пайшлі ў госці да Ніны Шчарбіцкай, унучатай пляменніцы Міхася Кавыля, якая ніколі не бачыла свайго знакамітага стрыечнага дзеда. Але вершы ягоныя чытала.

– Я сабе перапісала ягоныя вершы. Сваёй дачцэ расказвала. Неяк залезлі ў інтэрнэт, паглядзелі здымкі. У нас захаваліся лісты, фотаздымкі. Яны нам пасылкі дасылалі ўвесь час. Але апошнім часам страцілі сувязі. Але мы ведаем, памятаем, разумеем. Ягоная кніга – гэта крык душы.

Ніна напрыканцы 1980-х збіралася ў ЗША. Звазіць сваю бабулю Ядвігу ў госці да брата. Але не склалася. Бабуля захварэла і памерла.

– Мая мама некалі пытанне задала яму. Ці хочацца на Радзіму? А ён напісаў, што на чужыне толькі ненармальнаму чалавеку можа быць добра.

Ёсць нейкі цуд у тым, што даваенны дом Лешчанкаў, дзе і нарадзіўся паэт, да гэтае пары стаіць. Пачарнелая ад часу хата сярод цагляных катэджаў новага часу. Але ўбачыць свой дом паэт так і не наважыўся. Пасля савецкіх турмаў і высылак ні ў якую перабудову, напэўна, не паверыў. Працягвае Ніна.

– Ён у лістах пытаў – ці растуць тыя вязы? Адчувалася ягоная туга. Баяўся, вядома, прыязджаць. Неяк ён збіраўся. І напісаў, што прыедзе. А пасля яму зрабілі аперацыю на адным воку, пасля на другім.

Толькі за сам факт перапіскі з амерыканскім сваяком бацьку Ніны звольнілі з працы. Ён працаваў на будоўлі вайсковых аб'ектаў.

– Калі даведаліся, што бацька перапісваецца, яго адразу звольнілі. Хаця ж не сам бацька перапісваўся, а ягоная маці, мая бабуля. Неяк дзед папрасіў сфатаграфаваць ягоную хату. А пасля чамусьці папрасіў, каб яму не высылалі гэтую фатаграфію. Мо баяўся чаго?

Са спадаром Шклярэўскім мы дайшлі да Галіны, яшчэ адной унучатай пляменніцы. Галіна адзіная са сваякоў ездзіла да Язэпа Лешчанкі ў ЗША. Разам з мужам Уладзімірам. А яшчэ ў Галіны ёсць кніжка Міхася Кавыля. Маладжавая вясёлая Галіна была вельмі здзіўленая маім паведамленнем, што яе стрыечны дзед, у якога яна гасцявала чвэрць стагоддзя таму, жывы.

– Ён яшчэ жывы? У мяне ягоная кніжка ёсць! Мы і ў Амерыку ездзілі. Сувязь такая дарагая. Мы раней званілі, усё на свеце. Я і не думала, што ён яшчэ жывы.

Да размовы далучыўся муж Галіны Уладзімір. Мяркуючы па колеры твару, чалавек нялёгкага змагання з зялёным зміем. Слухаючы яго, я каторы раз пераканаўся, як асцярожна трэба слухаць дальніх сваякоў і знаёмых.

– Паліцай ці хто ён там быў? Я знаю, што ён быў асведаміцелем. Я ўсё знаю.

Ці не таму паэт не спяшаўся на радзіму, што не хацеў лішні раз слухаць за спінаю нядобры шэпт савецкіх калгаснікаў? Для Галіны і Валодзі было цудам, што ў сям'і паэта ўсе гавораць па-беларуску.

– Яна на мяне крычала: "Галя! Ты чаго на рускай мове гаворыш?"

Валодзя абураўся.

– Яны ўнукаў прывучалі! Штобы яны гаварылі на беларускім. Если яны не гаварылі на беларускам, то яны ім нікакога вазнаграждзенія не давалі. Дык яны ўжо шпрэхалі троху. Там, калі сын прыйшоў і прыбраў кварціру, ім бацькі за гэта плоцяць. У іх усё платнае.

Галіна не палюбіла Нью-Ёрк.

– Мне зусім не спадабаўся Нью-Ёрк. Спусціліся ў метро. Там вааб-шчэ гразь, усё пацарапана. Некрасіва.

Такім чынам, Амерыка Галіне і Валодзю не спадабалася. Самым яскравым момантам паездкі быў, мяркуючы па агні ў Валодзевых вачах, выйгрыш на гульнявым аўтамаце 99 даляраў. Зрэшты, можа, гэта самая вялікая падзея ў Валодзевым жыцці.

– Усе папрайгравалі. А я выйграў 99 долараў!

А кніжку, якую падарыў Міхась Кавыль Галіне, яна так і не знайшла.

– Там такая была кніжка! Санеты. Тамака ўсе ягоныя вершы. Пабеларускаму там очань многа.

*Куды ісці? Каму ў вакно пастукаць?*
*Хто мне адчыніць і працягне рукі,*
*Як тры гады было таму назад?*
*Вось тут калісь стаяла наша хата,*
*А тут гуляў я часта з меншым братам,*
*І нам шумеў густы зялёны сад...*
*Няма, няма ні саду, ані хаты:*
*Да трэскі ўсё расцягнута, пакрата...*
*Ў далёкі край пайшоў мой меншы брат.*
*А бацька дзе? А сёстры, а матуля?*
*Даўно яны ў чужой зямлі паснулі,*
*І іх цяпер дабудзішся наўрад.*
*Куды ісці? Каму ў вакно пастукаць?*
*Хто мне адчыніць і працягне рукі,*
*Як тры гады было таму назад?*

Вершы і песні ўжо забараніць не ўдасца нікому. І з гэтым 101-гадовага паэта Міхася Кавыля таксама можна павіншаваць.

**Зміцер Бартосік, "Радыё Свабода"**
**Надрукавана ў скароце,**
**цалкам чытайце на сайце zbsb.org**

**юбілей**

# НАТАЛЛІ ЦІМАХОВІЧ – 90!

6 снежня 2016 года споўнілася 90 гадоў Наталлі Пятроўне Цімаховіч.

Наталля Цімаховіч нарадзілася ў сям'і латгальскага беларуса, кандытара Пятра Адольфавіча Цімаховіча з мястэчка Піедруя і Кацярыны Канстанцінаўны з Касцюшкевічаў.

У 1941 годзе скончыла Рыжскую асноўную школу імя Юрыса Нэйкена. У тым жа годзе, калі пачалася вайна, выехала з бацькам у Латгалію, у мястэчка Індра, дзе 2 гады вучылася ў Індраўскай беларускай гімназіі, якую ўзначальваў тады вядомы педагог і вучоны Сяргей Сахараў. У гімназіі яна добра авалодала беларускай літаратурнай мовай, на якой нават спрабавала пісаць вершы, спявала песні. Пасля вайны, у 1946 годзе, са срэбным медалём скончыла ў Рызе латышскую сярэднюю школу. Тады ж паступіла на фізіка-матэматычны факультэт Латвійскага ўніверсітэта, які паспяхова скончыла ў 1952 годзе.

Пасля ўніверсітэта ўвесь час, да выхаду на пенсію, спадарыня Наталля працавала ў Астранамічнай абсерваторыі Латвійскай акадэміі навук. У 1990 годзе абараніла кандыдацкую дысертацыю "Вялікія радыёўспышкі Сонца". На тую ж тэму ёю зроблена звыш 20 навуковых публікацый. А ўсяго яна напісала больш за 300 навуковых работ пра Сонца, Галактыку і космас. Паралельна з навуковай працай у галіне радыёастраноміі Н. Цімаховіч прыклала шмат намаганняў для развіцця геліябіялогіі. З 1958 года яна з'яўляецца пастаянным аўтарам часопіса "Zvaigznota debess" Латвійскай акадэміі навук і Інстытута астраноміі Латвійскага ўніверсітэта.

Удзельніца шматлікіх міжнародных навуковых канферэнцый. У 1992 годзе кандыдацкая дысертацыя Н. Цімаховіч была настрыфіцыравана Латвійскім універсітэтам як доктарская.



Наталля Цімаховіч да сённяшняга часу актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак". Яна пераклала на беларускую мову творы Яніса Порука, Яніса Яунсудрабіня і Яніса Райніса, даследуе латвійскія дайны. Шмат пісала ў латвійскія цэнтральныя газеты пра жыццё беларусаў Латвіі, з'яўляецца сталым аўтарам урадавай газеты "Latvjas vēstnesis".

**Латвійскае Таварыства беларускай культуры "Сьвітанак"**

**навіны**

# У БЕЛАСТОКУ ЎЗНАГАРОДЗІЛІ ЛАЎРЭАТАЎ КОНКУРСУ "ДЭБЮТ"

У XIX Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы ўзялі ўдзел каля паўсотні літаратараў-аматараў з усёй Польшчы.

У першай узроставай групе перамагла Магдалена Бяляўская са школы ў Нараўцы: "Вершы – гэта частка мяне, мне ніколі не будзе шкада часу на іх". У другой узроставай групе перамагла – Таццяна Фалевіч.

Галоўны рэдактар Тыднёвіка Беларусаў у Польшчы "Ніва", арганізатара гэтага конкурсу, Яўген Вапа адзначыў, што правядзенне такіх конкурсаў узбагачае спадчыну Беласточчыны і падзівіўся з феномена гміны Нараўка, дзе столькі людзей пішуць па-беларуску.

**Уля Шубзда, "Беларускае Радыё Рацыя"**





# ПАЙШОЎ З ЖЫЦЦЯ ЛЕАНІД МАРАКОЎ

Гэта здарылася раніцай 17 снежня, паведаміла на Facebook актывістка Наталля Саматыя. Маракову было 58 гадоў.

У яго была пухліна галаўнога мозгу. На пачатку года Леанід перанёс інсульт.

***

Леанід Маракоў нарадзіўся ў 1958 годзе. Па прафесіі інжынер-радыёэлектронік. У 1990-я ён стаў вывучаць біяграфію свайго дзядзькі паэта Валерыя Маракова, які быў расстраляны 29 кастрычніка 1937 года. Вынікам працы стала маштабнае даследаванне сталінскіх рэпрэсій у Беларусі — падрыхтаваны і часткова выдадзены 10-томны энцыклапедычны даведнік пад назвай "Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы. 1794–1991". Усяго сабраны звесткі пра 20 тысяч ахвяраў.

Маракоў выпусціў таксама дакументальнае даследаванне "Ахвяры і карнікі", дзе сабраў біяграфіі ахвяраў і тых, хто мае дачыненне да рэпрэсій у Беларусі. Асобна выйшла кніга, дзе сабраны звесткі пра рэпрэсаваных у Беларусі праваслаўных святароў.

Леанід Маракоў таксама вядомы сваімі літаратурнымі творамі, аўтар некалькіх кніг. У 2014 годзе выйшла яго манаграфія "Галоўная вуліца Мінска. 1880–1940".

**"Наша Ніва", фота Юліі Дарашкевіч**

## Беларускі каляндар памятных дат на студзень 2017 года

1 снежня – 35 гадоў таму, у 1981-м, памёр Рыгор Бярозкін, літаратар.

1 студзеня – 90 гадоў таму, у 1927-м, нарадзіўся Кастусь Рамановіч, удзельнік падпольнага Саюза Вызвалення Беларусі ў Навагрудку.

1 студзеня – 85 гадоў таму, у 1932-м, нарадзіўся Часлаў Цыбоўскі, удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смаргонях у 1949–1950 гг.

6 студзеня – 125 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Адам Станкевіч, рымска-каталіцкі святар, грамадска-культурны дзеяч.

7 студзеня – Каляды (Раство Хрыстова) паводле юліянскага календара.

7 студзеня – 100 гадоў таму, у 1917-м, нарадзіўся Святаслаў Коўш, праваслаўны святар, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

9 студзеня – 115 гадоў таму, у 1902-м, нарадзіўся Антон Жэбрак, генэтык, грамадскі дзеяч.

12 студзеня – 15 гадоў таму, у 2002-м, памёр Яўген Кулік, мастак, грамадскі дзеяч.

14 студзеня – 90 гадоў таму, у 1927-м, нарадзіўся Янка Філістовіч, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху.

15 студзеня – 275 гадоў таму, у 1742-м, нарадзіўся Францішак Нарвойш, філосаф, матэматык.

15 студзеня – 90 гадоў таму, у 1927-м, памёр Давід Яноўскі, шахматыст.

18 студзеня – 105 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Пётр Сыч, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Нямеччыне.

18 студзеня – 70 гадоў таму, у 1947-м, у Лондане пачаўся Першы з'езд Згуртавання Беларусаў Вялікай Брытаніі (ЗБВБ).

19 студзеня – 155 гадоў таму, у 1862-м, памёр Міхаіл Без-Карніловіч, гісторык.

20 студзеня – 125 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Браніслаў Тарашкевіч, грамадска-палітычны дзеяч, мовазнавец.

20 студзеня – 125 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Рыгор Шырма, грамадска-культурны дзеяч, фальклnetwork.

24 студзеня – 220 гадоў таму, у 1797-м, нарадзіўся Цімафей Ліпінскі, гісторык.

24 студзеня – 190 гадоў таму, у 1827-м, нарадзіўся Аляксандр Далеўскі, адзін са стваральнікаў Братняга саюза літоўскай моладзі, удзельнік вызваленчага руху.

24 студзеня – 120 гадоў таму, у 1897-м, памёр Альфрэд Ромер, мастак, этнограф, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

26 студзеня – 110 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Мікалай Лапіцкі, рэлігійна-грамадскі дзеяч эміграцыі ў ЗША.

28 студзеня – 240 гадоў таму, у 1777-м, памёр Антоні Скарульскі, рэктар Навагрудскага езуіцкага калегіума.

28 студзеня – 95 гадоў таму, у 1922 м, нарадзіўся Янка Жамойцін, беларускі дзеяч у Польшчы.

28 студзеня – 35 гадоў таму, у 1982-м, памерла Алена Лябецкая, дзеяч Таварыства Беларускай Школы.

28 студзеня – 15 гадоў таму, у 2002-м, памёр Пётр Манькоўскі, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

29 студзеня – 300 гадоў таму, у 1717-м, нарадзіўся Людвік Грынцэвіч, архітэктар.

**Беларусы ў свеце**
No 12 (175), снежань 2016

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27